# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, www.baza-belarus.org*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 6 (556)
Чэрвень 2012 г.


## ВІНШАВАНЬНЕ

### СП. ВІТАЎТУ КІПЕЛЮ ДА 85-ГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ



Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня" віншуе сп. Вітаўта Кіпеля з 85-годзьдзем з дня нараджэньня і жадае моцнага здароўя, энэргіі, аптымізму, дачакацца прыходу ў Беларусь сапраўднай свабоды і дэмакратыі, пабачыць аднаўленьне беларускай культуры на Бацькаўшчыне, пачуць беларускую мову ў рэгулярным ужытку з вуснаў кіраўніцтва Беларусі, яе ўрадоўцаў, моладзі й шырэйшых колаў народу.

Мы ведаем сп. Вітаўта Кіпеля як грамадзкага дзеяча і навукоўца, аўтара шэрагу кнігаў, выдаўца, дырэктара Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, дасьледчыка ў галіне амэрыканскай беларусістыкі, спэцыяліста па беларускай бібліяграфіі, проста прыемнага і цёплага чалавека, а таксама шчырага і ахвярнага патрыёта Беларусі.

Хай жа Вашая актыўная дзейнасьць, дарагі спадар Кіпель, працягваецца надалей, хай расьце яе плён, хай пра Вас даведаецца яшчэ большая колькасьць беларускіх людзей на Бацькаўшчыне і ў сьвеце.

Дай, Божа, сто год!

***Кіраўніцтва Згуртаваньня "Пагоня", Нью-Ёрк***

*У нядзелю,* ***15 ліпеня 2012 году,*** *традыцыйным Маршам пачынаецца*

## Тыдзень Паняволеных Народаў,

*якi быў зацьверджаны Кангрэсам Злучаных Штатаў Амэрыкі праз Грамадзкі закон 86-90 яшчэ ў 1959-м годзе, як выказ пратэсту народаў сьвету супраць камуністычнай і таталітарнай тыраніі ў сьвеце. У імпрэзах Тыдня і ў Маршы Паняволеных Народаў традыцыйна бярэ ўдзел беларуская грамада Нью-Ёрку і Амэрыкі.*

**9:00** – ***збор удзельнікаў Маршу*** *на Пятай авэню і 59-й вуліцы (ля фантану гатэля Пляза).*
**10:00** – ***імша за Паняволеныя Народы*** *ў Катэдры сьв. Патрыка на Пятай авэню і 50-й вуліцы.*
**11:00** – ***Марш Паняволеных Народаў*** *па Пятай авэню да 72-й вуліцы.*
**12:00** – ***афіцыйнае адкрыцьцё*** *Тыдня Паняволеных Народаў у Цэнтральным парку.*

Арганізаваны Камітэтам Паняволеных Народаў, які паўстаў у 1950-я гады, Тыдзень Паняволеных Народаў, часткаю якога ёсьць гэты Марш, быў масавай імпрэзай эміграцкіх арганізацыяў з краінаў, якія калісьці зьняволіў савецкі камунізм, у тым ліку Беларусі. Сёньня большасьць тых краінаў вызвалілася і здабыла свабоду.

Беларусь засталася паняволенай прамаскоўскім дыктатарскім рэжымам, там зьліквідаваная дэмакратыя, парушаюцца правы чалавека, зьнішчаецца нацыянальная культура. Таму беларуская грамада працягвае браць удзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, выказваючы свой пратэст.

# Травеньскі сход Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

У суботу, 12 траўня, у Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся чарговы травеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня Віталь Зайка коратка азнаёміў прысутных з падзеямі ў Беларусі і ў Амэрыцы за апошні месяц, паінфармаваў пра акцыю ў памяць Чарнобыльскай катастрофы, праведзеную арганізацыяй на Мангэтане каля штаб-кватэры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў 28-га красавіка. Падчас гэтай акцыі сябры "Пагоні" прадэманстравалі сваю салідарнасьць з ахвярамі Чарнобыльскай аварыі, шмат зь якіх дасюль, вось ужо 26 год, жывуць на забруджаных радыяцыяй землях, а таксама выказалі свой пратэст супраць палітыкі рэжыму Лукашэнкі на згортваньне дапамогі пацярпелым ад аварыі й ліквідатарам, а таксама супраць будаўніцтва атамнай станцыі на Астравечыне з выкарыстаньнем няпэўных расейскіх тэхналёгіяў і абсталяваньня.

Затым сп. В. Зайка распавёў пра бягучае становішча ў арганізацыі і адзначыў, што плянаваны на гэты дзень справаздачна-выбарчы сход будзе перанесены дзеля браку папярэдняй інфармацыі. Пасьля гэтага сп. Зайка коратка пазнаёміў гасьцёй "Пагоні" з мэтамі й прынцыпамі арганізацыі і запрасіў усіх, хто мае пажаданьні й прапановы адносна пэрспэктываў дзейнасьці арганізацыі, выказвацца. Са сваім бачаньнем дзейнасьці арганізацыі й сваёй ролі ў ёй выказаліся сп. Віктар Едзіновіч і сп-ня Валянціна Якімовіч.

Сакратар Згуртаваньня "Пагоня" Валянціна Якімовіч паведаміла аб падрыхтоўцы да беларускага традыцыйнага сьвята Купальля, што пройдзе ў маляўнічай мясьціне недалёка на поўнач ад гораду Нью-Ёрку 23-24 чэрвеня сёлета. Сп-ня Якімовіч распавяла пра традыцыю сьвяткаваньня Купальля ў Нью-Ёрку, якой ужо больш як 12 гадоў, апісала ход правядзеньня гэтага традыцыйнага сьвята і запрасіла ўсіх прысутных узяць у ім ўдзел. Прамоўца таксама нагадала пра сымболіку купальскіх абрадаў і яе ролю ў беларускім фальклёры, апісала асноўныя формы гэтай старадаўняй традыцыі. Яна таксама дала парады адносна падрыхтоўкі да ўдзелу ў Купальлі, заклікала жадаючых узяць у ёй удзел папярэдне запісвацца, каб можна было зручней дабірацца да месца сьвяткаваньня.

Напрыканцы сходу, у традыцыйным разьдзеле "Рознае", прагучэлі аб'явы і паведамленьні і адбыліся знаёмствы з гасьцямі Згуртаваньня.

Сп. Віталь Зайка заклікаў усіх прысутных актыўней калегаваца зь землякамі, знаёміцца і абменьвацца інфармацыяй пра мажлівасьці працы, жытла, навучаньня, стыпэндыяў і падобных важных справаў у жыцьці, асабліва для нядаўны прыбылых з Бацькаўшчыны людзей.

Пасьля афіцыйнай часткі прысутныя мелі магчымасьць пабавіць крыху часу пры сьціплых пачастунках, а жадаючыя мелі нагоду афіцыйна далучыцца да арганізацыі, падаўшы адпаведныя заявы.

**Віталь ЗАЙКА**

## *Барыс ДАНІЛЮК* "Азіраючыся расой выетымі вачыма": Успаміны.

*Мінск: Лімарыус, 2012. — 524 с. — (Беларуская мэмуарная бібліятэка).*

Пабачыў сьвет новы том Беларускай мэмуарнай бібліятэкі, які склалі ўспаміны вядомага дзеяча беларускай эміграцыі ў ЗША Барыса Данілюка. "Азіраючыся расой выетымі вачыма" аўтар пісаў у апошнія гады жыцьця, адначасова складаючы "Здымкавы летапіс жыцьця і дзейнасьці беларускае эміграцыі ў ЗША й іншых заходніх краінах". І першы, і другі творы, на жаль, засталіся нясконченыя.

Найбольш падрабязны аповед ва ўспамінах датычыць даваеннага і ваеннага жыцьця Барыса Данілюка на роднай Слонімшчыне. Са старонак мэмуараў паўстае рэальная, негераізаваная постаць бацькі аўтара – айца Хведара Данілюка, падаюцца побытавыя падрабязнасьці жыцьця сям'і праваслаўнага сьвятара ў міжваеннай Заходняй Беларусі з пэрыядычнымі пераездамі з аднаго месца на другое, неабходнасцю наноў адбудоўваць гаспадарку, залежнасьцю ад дабрабыту вернікаў і настрою царкоўных уладаў. Барыс Данілюк пасьлядоўна распавядае пра сваё школьнае навучаньне, асаблівасьці дачыненьняў паміж вучнямі, характарызуе настаўнікаў, згадвае пра сваё выключэньне з гімназіі ў Слоніме. Яскрава адлюстроўваюцца на старонках успамінаў нюансы беларуска-польскіх дачыненьняў.




Падрабязна прадстаўленыя ў мэмуарах і падзеі прыходу ў Заходнюю Беларусь савецкай ўлады, тыя складанасьці, якія яна прынесла сям'і сьвятара, адчуваньне безвыходнасьці. Надзвычай рэалістычна падаюцца і падзеі нямецкай акупацыі. Малады хлапец – супрацоўнік беларускай адміністрацыі на Слонімшчыне – Барыс Данілюк прызнаецца ў тых надзеях на беларусізацыю грамадзкага жыцьця, якія ён меў і якія былі далёка ня ў поўнай меры рэалізаваныя праз неразуменьне і нядбальства як немцаў, гэтак і сваіх – беларусаў.

Удзельнік Другога Ўсебеларускага Кангрэсу Барыс Данілюк згадвае і падзеі гэтага форуму, і настрой адразу пасьля яго, і адметнасьці бежанства зь Беларусі праз Польшчу ў Нямеччыну ды паўгалоднае там існаваньне. Асаблівасьці жыцьця ў Бэрліне перад канцом вайны ды пазьней у францускай зоне акупацыі Нямеччыны – гэта апошнія старонкі падрабязных успамінаў аўтара. Далейшыя падзеі: навучаньне ў УНРРАўскім унівэрсытэце ў Мюнхэне, выезд у ЗША ды актыўная грамадзкая дзейнасьць у новай краіне – усё гэта Барыс Данілюк не пасьпеў выклясьці гэтак жа пасьлядоўна, як папярэднія гады свайго жыцьця. Аднак выдаўцы, для стварэньня завершанага аповеду, скарысталі ў кнізе невялікія ўспаміны, напісаныя дзеячам на просьбу эміграцыязнаўцы Лявона Юрэвіча для

***Заканчэньне на наступнай бачыне***

# 200 год напалеонаўскай кампаніі ў Беларусі

Дзьвесьце год назад у гэтым месяцы войскі напалеонаўскай Францыі ды яшчэ “дванаццаці пляменаў”, апанаванай Напалеонам Банапартам Эўропы, перайшлі раку Нёман і ўварваліся ў межы беларускіх земляў, што сталі незадоўга перад тым часткаю Расейскай імпэрыі. Таксама ў чэрвені, 71 год таму, пачалася савецка-нямецкая вайна. Менавіта на беларускіх этнічных землях разгарнулася змаганьне за лёсы Эўропы.

Як Гітлер рэклямаваў сябе вызвольнікам ад расейскага бальшавізму, так і Напалеон прыйшоў у Беларусь як самапраклямаваны аднавіцель Вялікага Княства Літоўскага, які назваў вайсковую кампанію супраць Расеі “Другою Польскаю вайною”. Першаю лічылася або паўстаньне Тадэвуша Кясьцюшкі ў 1794-95 г.г., або стварэньне падчас кампаніі супраць Аўстрыі й Прусаў Герцагства Варшаўскага, як сурагатнай дзяржавы, наўзамен падзеленай трыма манархіямі ў 1772-1795 гг. Польска-Літоўскай супольнасьці Рэчы Паспалітай.

Як вядома, пacтуп ішоў па лініі Вільня-Віцебск-Смаленск. На беларускіх землях адбываліся пераважна дробныя сутычкі французаў з адступаючымі расейскімі войскамі. Першаю значнаю бітваю была бітва пад Полацкам, у выніку якой расейцам удалося перакрыць шлях на поўнач, на сталіцу Расеі Пецярбург, у сярэдзіне жніўня. Затым была значная бітва пад Смаленскам і славутая Барадзінская бітва 7 верасьня 1812 году, калі французы атрымалі перамогу, зь якой ня здолелі належна скарыстаць. Праз тыдзень Напалеон заняў Маскву, але акрамя магутнага сымбалічнага значаньня, гэты крок меў няшмат карысьці ў сэнсе вайскова-стратэгічным. Так як і нямецкая кампанія ў Расеі амаль 130 год пазьней, дзеяньні Напалеона мелі рысы не да канца прадуманай і слаба падрыхтаванай саманадзейнай авантуры.

Тымчасам на беларускіх землях “гістарычныя” клясы грамадзтва, шляхта і магнатэрыя, утварылі ў Вільні Камісію Часовага ўраду Вялікага Княства Літоўскага, была створаная мясцовая адміністрацыя, зарганізавана жандармэрыя і паліцыя і праведзеная абмежаваная вайсковая мабілізацыя. Пануючыя клясы Вялікага Княства з энтузіязмам падтрымалі аднаўленьне некаторых атрыбутаў колішняй дзяржавы, тысячы выхадцаў зь беларускіх земляў змагаліся ў складзе шэрагу палкоў, зарганізаваных Камісіяй Часовага ўраду, супраць расейскіх войскаў, якія ўважаліся паняволььваючай варожай сілай. Архіяпіскап Магілёўскі й Беларускі абвесьціў у Менску аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы, за што пасьля быў высланы ў Сібір. Сялянства Беларусі, а гэта значыць пераважная бальшыня яе насельніцтва, прыняла зьмену ўлады досыць пасыўна, але незадаволенасьць вайсковымі дзеяньнямі, якія, так як і 130 год пазьней, непасрэдна адбілася на ягоным стане, паўплывала на паступовае перасоўваньне сымпатыяў на бок расейскага цара. Між тым беларусы апынуліся па абодва бакі фронту, як і ў час Другой сусьветнай вайны.



*Мастак В. Мазуроўскі.* ***Пераход арміі Напалеона праз Нёман.***

Нельга не заўважыць паралеляў паміж кампаніямі 1812 году і 1941 году: хуткае адступленьне расейскіх войскаў і брак якіх-кольвечы сур’ёзных спробаў абараніць беларускія землі; пачатковы энтузіязм часткі насельніцтва да заваёўнікаў, што паступова зьмянуўся на варожасьць; актыўнае выкарыстаньне расейцамі заклікаў да партызанскіх дзеяньняў і прапаганда пераможнай вайны для замацаваньня расейскага панаваньня й зьнішчэньня ягоных апанэнтаў.

Звычайна пасьля 71 году, і тым больш праз 200 год, войны, так як іншыя падзеі, робяцца часткаю далёкай гісторыі, і мала хто, скажам, падумаў праз 71 год пра пачатак Першай сусьветнай або расейска-японскай войнаў. Для Расеі замежныя інтэрвэнцыі 1812 і 1941 гадоў сталі часткаю нацыянальнага міту, які ствараўся для кансалідацыі этнасу і нацыі, для апраўданьня расейскага панаваньня на землях (“расейскі народ-вызваліцель”). Гэта можна зразумець і патлумачыць. Аднак некрытычнае, “оптавае” запазычаньне расейскага нацыянальнага міту беларускім грамадзтвам ёсьць абсалютова недарэчным і ганебным. Праз дзесяцігодзьдзі прапаганды “айчынных войнаў” беларусы так і ня вызначылі для сябе, аб якой айчыне ідзе гаворка, што ёсьць “айчынаю” беларуса – Расейская імпэрыя, Савецкі Саюз?

Абедзьве чужыя “айчынныя вайны” ў Беларусі яшчэ чакаюць комплекснага гістарычнага дасьледваньня і аналізаваньня, і шырокай грамадзкай дыскусіі. Застаецца спадзявацца, што чакаць на гэта засталося ня доўга. Прынамсі менш за 200 год.

***Віталь ЗАЙКА***

## Успаміны Б. Данілюка

***Заканчэньне з папярэдняй бачыны***

пэрыёдыка “Запісы БІНіМ”. Такім чынам, храналягічна мэмуары даходзяць да пачатку 1970-х гг., спыняючыся на сьмерці ўладыкі Васіля (Тамашчыка).

Ва ўспамінах Барыса Данілюка сямейная гісторыя цесна пераплеценая з падзеямі гісторыі Беларусі ды сусьветнай гісторыі. Гэты арганічны сынтэз дае магчымасьць зноў пабачыць і адчуць асаблівасьці ўспрыманьня беларусам сябе і сьвету, асэнсаваньня свайго месца ў гісторыі.

Успаміны Барыса Данілюка багата ілюстраваныя здымкамі зь сямейнага архіву. У тым ліку тут ёсьць рэдкія выявы падзеяў на Слонімшчыне часоў Другой сусьветнай. Традыцыйна высокі навуковы ўзровень выданьня мэмуараў падтрыманы і грунтоўнымі камэнтарамі, зробленымі айчыннымі гісторыкамі Аляксандрам Пашкевічам, Алегам і Натальляй Гардзіенкамі.

Цікавыя, падрабязныя, удумлівыя, упершыню апублікаваныя ўспаміны Барыса Данілюка – яшчэ адзін важны помнік эміграцыйнай мэмуарыстыкі, падараваны айчыннай культурна-гістарычнай прасторы.

***Яна СЛАВІНА***

# КУПАЛЬЛЕ

## Шаноўныя сябры-беларусы!

*Запрашаем разам адзначыць старадаўнюю рамантычную традыцыю КУПАЛЬЛЯ і правесьці незабыўны адпачынак у кампаніі суродзічаў на ўлоньні прыроды. Чароўны купальскі вечар пачнецца з прызначэньня Князя-Купаліша і Купалінкі, якія распаляць вогнішча. Уночы нячысьцікі выкрадуць Купалінку. Каб даведацца пра іншыя падзеі і абрады купальскай ночы, далучайцеся да нас. Пачастуйцеся крупнікам, у склад якога па традыцыі ўваходзяць 27 лекавых траваў. Скокніце праз вогнішча з тым, хто вам не абыякавы, не разьняўшы рук. Можа каму з вас пашанцуе знайсьці сваю папараць-кветку ў гэтую чароўную купальскую ноч.*

**Калі:** Сьвята пачнецца ў суботу **23 чэрвеня** прыкладна **а 6-й вечара** і працягнецца ўсю самую кароткую ноч году. Дазвол ў парку з 11-й раніцы ў суботу да 11-й раніцы ў панядзелак. Колькасьць удзельнікаў абмежаваная (умовамі парку) да 40 чалавек.

**Дзе:** Парк **Ward Pound Ridge Reservation** у ***Cross River, NY 10518***. Шукайце хаткі 1, 2, 3 і 4.

**Транспарт:** Цягніком са станцыі **Grand Central** да прыпынку **Katonah**, прыкладна, 1 гадзіна часу ў дарозе.

**Кошт:** **$25** дарослым, **$10** дзецям.

**Кантакты:** **Пётр і Лена РЫЖЫЯ,** тэлефон: ***(914) 522-0742***, электронная пошта: ***lenabelarus@yahoo.com***

***Piotr & Lena Ryzy***
***P. O. Box 1952***
***Ossining, NY 10562***

**Мець з сабою:**
- беларускія строі, вышыванкі ці адзеньне з сымболікай; дзяўчатам – доўгія спадніцы, хлопцам – доўгія сьветлыя штаны, ня шторты (толькі на час сьвяткаваньня);
- ежу і ваду, спальныя мяшкі, намёты, раскладныя крэслы, ліхтарыкі;
- **$8** з аўта ў незалежнасьці ад колькасьці пасажыраў за ўезд у парк днём, пасьля 5-й вечара ўезд бясплатны.

### Уплаты ў арганізацыю
Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| А. Бабкова | 50 |
| В. Балашчэнка | 50 |
| Я. Барысевіч | 50 |
| М. Буслаў | 50 |
| В. Васіна | 50 |
| Ю. Вішнеўская | 50 |
| Ю. Камар | 50 |
| А. Корзун | 50 |
| З. Левіт | 50 |
| К. Ліпская | 50 |
| Я. Лук'янава | 50 |
| Я. Пляшэвіч | 50 |
| І. Цублянок | 50 |
| І. Язерская | 50 |
| В. Якімовіч | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Valentina Balashchenko.*

*Паважаныя **К. Ліпская, Ю. Маісеенка, І. Пракаповіч, А. Вяроўка**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца **ў суботу 9 чэрвеня 2012 году** на Мангэтане.

**Падчас сходу сябры дзейнай управы дадуць справаздачы аб сваёй дзейнасьці, і адбудуцца выбары новага кіраўніцтва арганізацыі на наступны год. Просьба ўсім сябрам ўзяць удзел у выбарах, а калі ня змогуць прысутнічаць асабіста, перадаць упаўнаважаньні для галасаваньня сваім прадстаўнікам.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі падземкі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля знаходзіцца на другім паверсе будынка.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| А. Бабкова | 30 |
| М. Буслаў | 30 |
| В. Васіна | 30 |
| Ю. Вішнеўская | 30 |
| Ю. Камар | 30 |
| А. Корзун | 30 |
| З. Левіт | 30 |
| К. Ліпская | 30 |
| Я. Лук'янава | 30 |
| Я. Пляшэвіч | 30 |
| І. Цублянок | 30 |
| І. Язерская | 30 |
| В. Яськевіч | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя*
***Valentina Balashchenko.***

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя артыкулы, водгукі й лісты.*